

**Міліцыя дае інфармацыю**

2 стар.



**Споведзь беларускага «альфонса»**

4 стар.



**Зноў пра Мюнхгаўзена**

6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.minsk.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 22(113) 30 траўня --5 чэрвеня 2002 года | Кошт па дамове

## 1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей



| Надвор`е* | Агляд складзены па дадзеных 27/05/2002 0:00 GMT | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 30/5 Чц | 31/5 Пт | 1/6 Сб | 2/6 Нд | 3/6 Пн | 4/6 Ат | 5/6 Ср | 6/6 Чц |
| Тэмпература: з 14 гадзін | +22 | +22 | +22 | +24 | +22 | +18 | +16 | +18 |
| з 2 гадзін | +10 | +9 | +10 | +14 | +14 | +14 | +10 | +9 |
| Ціск, мм рт.сл. | 745 | 745 | 747 | 746 | 747 | 745 | 745 | 748 |
| Тэндэнцыя ціску | 0 | +1 | +1 | 0 | +1 | -2 | +1 | +2 |
| Накірунак ветру | Пн-У | Пн | Пн | Зах | Зах | Пд | Зах | Зах |
| Хуткасць ветру, м/с | 3 | 2 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

## НАВІНЫ

Стварыць такую сітуацыю, каб кіраўнікі прадпрыемстваў-даўжнікоў не маглі спаць спакойна, пакуль не разлічацца з бюджэтам, - заклікаў старшыня Мінгарвыканкаму Міхаіл Паўлаў. Сітуацыя з выплатамі ў гарадскі бюджэт на працягу апошніх 6 месяцаў застаецца складанай: прадпрыемствы вінныя каля 21 млрд. рублёў, што складае каля трацiны месячнага бюджэту сталіцы. Кіраўнік мінскай вертыкалі назваў такую сітуацыю "недазвольнаю раскошай" і прапанаваў адміністрацыям раёнаў разам з падатковымі органамі і пракуратурай сур'ёзна заняцца гэтай праблемай.

Забарона абортаў не павялічыць нараджальнасць, - лічаць удзельнікі апытання, праведзенага на замову грамадскага аб'яднання "Жаночы незалежны дэмакратычны рух". 17% апытаных мінчукоў мяркуюць, што пры забароне абортаў, нараджальнасць павялічыцца, і каля 40% апытаных лічаць, што забарона ці абмежаванне абортаў ніякім чынам не паўплываюць на нараджальнасць. Большасць з удзельнікаў апытання - 77% - паведамілі, што не віталі б забароны абортаў.

6,4 млн. тон збожжа запланавана сёлета сабраць у Беларусі, - заявіў міністар сельскай гаспадаркі краіны Міхаіл Русы. Пад будучы ўраджай калгасы і саўгасы атрымалі сёлета ад Міністэрства фінансаў 100 млрд. рублёў. Нагадаем, што летась была пастаўлена задача сабраць 7 млн. тон зерня, а намалацілі толькі 5 млн.

## Чорныя «Мэрсы» ля «Белага дома»



23 траўня на базе Глыбоцкага раёна адбыўся абласны семінар з удзелам старшыні аблвыканкама У. Андрэйчанкам. Семінар адбыўся з нагоды заканчэння пасяўной кампаніі і дзеля вырашэння пытанняў жывёлагадоўлі. Удзельнікі семінара наведалі калгасы ім.Калініна, XXII партз'езд, "За Радзіму", птушкафабрыку.

Нічога асаблівага ў гэтай падзеі няма.



Беларусь ужо прывыкла да семінараў, нарад ды "селекторных совещаний", якія транслююцца па беларускаму тэлебачанню на ўсю краіну. Знешнім бокам семінара стала вялікая колькасць стражаў парадка на плошчы. Ды яшчэ больш здзіўлялі глыбачан каля двух дзесяткаў новых чорных "Мэрсэдэсаў", якія былі выстраены ў два рады насупраць "белага дома". "Гэта тыя "Мэрсы", што прэзідэнт падараваў выканкамам, -- сказаў адзін прахожы другому, -- во гэта рэч, кожны з іх каштуе як мінімум 20 тысяч "зялёных". "Лепш бы Рыгоравіч падараваў ім трактары, шмат бы сёння засеялі, можа б у раёне і пасяўная скончылася" – працягваў размову другі.

Далейшую размову я ужо не чуў, а ў памяці ўсплыла бабулька, якую мы сфатаграфавалі з сябрам, калі тая, купіўшы бохан хлеба і ўладкаваўшыся ў крэсла ў краме, з жалем гладзела ў пусты кашалёк.

*Я.Берніковіч (фота аўтара)*

# Аперацыя "Быт" стала актуальнай

**Аперацыя з такой назвай праходзіць па ўсёй краіне з 11 траўня па 1 чэрвеня з мэтай папярэджання злачынстваў на сямейна-бытавой глебе. Для Глыбоцкага раёна у гэта вельмі актуальна, бо кожны другі зварот у міліцыю за май – гэта сямейныя канфлікты і сваркі, пабоі. Справа даходзіць ледзь не да забойства. Узбуджана 8 крымінальных спраў, сярод якіх большасць маюць сямейныя матывы. Супрацоўнікі глыбоцкай міліцыі робяць усё магчымае для прафілактыкі такіх правапарушэнняў, але паведамленні аб бытавых злачынствах застаюцца. Травень месяц прынёс супрацоўнікам праваахоўных органаў шмат турбот. За папярэднія чатыры месяцы ў нас не было такіх злачынстваў, якія былі здзейснены ў траўні. Жаданне правесці свята ў добрым падпітку адбіваецца і на здзейсненых злачынствах. Вось некалькі прыкладаў.**



Фота IREX /ProMedia

Грамадзянін З. збіў сваю жонку. Была ўзбуджана крымінальная справа па арт.153 Крымінальнага кодэксу – за лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія прывялі да кароткатэрміновага расстройства здароўя. Да гэтага мужчына неаднаразова біў сваю жонку, але пацярпелая адмаўлялася ад сваіх заяў, прасіла толькі папужаць мужа.

Была ўзбуджана крымінальная справа і супраць жыхара вёскі Забор'е, які ў красавіку нанёс сваёй суседцы-пенсіянерцы 1952 года нараджэння цяжкія цялесныя пашкоджанні. Канфлікт атрымаўся з-за курэй, а суседка патрапіла ў бальніцу з пераломам ладыжкі.

У траўні жыхар вёскі Зубкі Залесскага сельсавета грамадзянін Д. быў у стане алкагольнага ап'янення. Высвятляў адносіны з жонкай і дачкой пры дапамозе нажа і паляўнічай зброі. Своечасова з'явіўся сын, адабраў ружжо, выклікаў міліцыю. Зараз будзе ўзбуджана крымінальная справа за пагрозу забойства.

15 мая жыхар вёскі Жабінка 1981 года нараджэння збівае сваю жонку. У п'яным угары ён прыставіў да горла нож і пагражаў зарэзаць. Сігналы ад маладой жонкі былі і раней, але яна зноў жа прасіла толькі папужаць вінаватага. Цяпер суд выявіў у яго дзеяннях склад злачынства і будзе ўзбуджана крымінальная справа таксама за пагрозу забойства.

18 мая ў 22 гадзіны грамадзянін Л. 1976 г.н., жыхар вёскі Матошкі Залесскага сельсавета зайшоў у дом да знаёмага. Вынік – ўдар нажом ў жывот, пранікальнае нажавое раненне і крымінальная справа за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Матываў злачынства не было ніякіх. Проста злаўмыснік быў п'яны.

Жыхар Глыбокага Х. развёўся з жонкай. Ад шлюба засталіся дзеці – хлопчыкі 5 і 7 год. Часта дзеці бывалі ў сваёй бабулі, якая добрасумленна даглядала сваіх унукаў. Калі ў доме бабулі быў бацька хлапчукоў, туды завітала іх маці. Яна хацела забраць дадому свайго сына, які тады знаходзіўся ў бабулі. У адказ атрымала пабоі. Муж душыў жонку рукамі да тых пор, пакуль жанчына не стала задыхацца. Супрацоўнікі праваахоўных органаў правялі дазнанне, а суд узбудзіў крымінальную справу за пагрозу забойства.

За май месяц два чалавекі накіраваны ў ЛПП, на траіх сабраны матэрыялы ў судзе. Глыбоцкія праваахоўныя органы адносяцца да злачынцаў досыць гуманна. Канечне, за цяжкае злачынства адна дарога – у турму. А вось калі гэта сямейныя скандалы, п'янкі, тым больш калі гэта адбываецца сістэматычна, то выбіраецца больш мяккае пакаранне – накіраванне ў лячэбна-працоўны прафілакторый. З пачатку гэтага года туды патрапілі 11 жыхароў горада і раёна. І гэта адзін з высокіх паказчыкаў у вобласці. Робіцца так перш за ўсё для аздараўлення абстаноўкі ў сям'і. На жаль, сёння ёсць патрэба ў жаночых ЛПП, бо жанчыны п'юць не меней мужчын, а якіх-небудзь мер да іх мы прыняць не можам. Зараз каардынацыйны савет унёс прапанову аб тым, што за няцяжкія злачынствы вінаватыя павінен працаваць, прыносіць карысць іншым людзям і грамадству. Напрыклад, лепей было б прыцягнуць такіх злодзеяў, якія не працуюць, п'янствуюць і не даюць спакойна жыць сваёй сям'і, да адказнасці ў выглядзе прымусовай працы па добраўпарадкаванню тэрыторыі горада, збору смецця і г.д.

Другім па колькасці у маі стаяць крадзяжы. Часта звяртаюцца за дапамогай жыхары, у якіх укралі асабістыя рэчы. Канечне, хочуць атрымаць тое, што страцілі. Гэта вельмі карпатлівая работа, якая аднімае шмат часу і сіл, але і такія заявы не застаюцца без увагі. На сённяшні дзень раскрывальнасць дробных крадзяжоў – 100%, а цяжкіх, якія звязаны з пранікненнем у жыллё – 92%.

У ноч з 17 на 18 траўня трое – жыхар Глыбокага, муж і жонка, жыхары Наваполацка, маладыя людзі, на падпітку, здзейснілі крадзёж парася па вуліцы Мінскай. Яны затрыманы. Для нас гэта статыстыка, а для гаспадара – значная страта ў бюджэце.

23 мая аператыўная група выязджала на месца іншага злачынства. У жыхаркі вуліцы Леніна былі скрадзены хатнія нарыхтоўкі, закаткі. Злачынца ўстаноўлены – жыхар в. Шунеўцы, грамадзянін Г., які выхоўваўся ў неблаганадзейнай сям'і, дзе ўсе яе члены мелі судзімасць. Трэці, малодшы з сыноў таксама пайшаў па гэтым шляху.

У канцы хацелася б расказаць аб дзёрзкім злачынстве, якое атрымала шырокі рэзананс у раёне. Адбылося яно ў ноч на 15 траўня. Трое злачынцаў зайшлі ў дом да жыхара Чарневіча. Яны звязалі гаспадара скотчам, на працягу трох-чатырох гадзін катавалі і збівалі мужчыну, вымагалі грошы. Пацярпелы патрапіў у рэанімацыю і зараз стаіць пытанне яго жыцця і смерці. Зараз адзін са злачынцаў устаноўлены і знаходзіцца ў вышуку. Злачынная група – гастралёры, не мясцовыя жыхары. Мы спадзяёмся, што злачынцы будуць адшуканы і прыстануць перад судом. Па сваёй жорсткасці такія злачынствы рэгіструюцца ў нашым раёне раз у пяць год.

*Протас А.В., начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС,маёр міліцыі*

Пошта

# "Хочацца быць пачутым..."

**У Праваабарончы цэнтр "Вясна" прыйшоў ліст з калоніі строгага рэжыму, што ў г. Глыбокае на Віцебшчыне. Аўтар яго Сяргей Прапіраеў ужо вядомы нашым чытачам* – ён два гады прасядзеў у камеры смяротнікаў – расказвае пра сённяшняе жыццё зняволеных у адной з самых вядомых беларускіх "зонаў". Дзякуй, нам цікавая любая інфармацыя, што прыходзіць з-за кратаў.**

Сяргей Працiраеў піша: "Справу супраць мяне ўзбудзілі ў 1996 годзе. Суддзя Ткач вынесла мне прысуд – "расстрэл". Два гады я пасядзеў у камеры смяротнікаў у СІЗА на Валадарцы. І мне дагэтуль ніколі не хочацца ўзгадваць пра ўсё тое, што я там перажыў, чуў і бачыў. Пасля ў 1999 годзе Указам прэзідэнта мне змянілі "расстрэл" на 20-ці гадовае зняволенне.

У калоніі я атрымліваю рэгулярна бюлетэні "Права на волю". Мне і іншым асуджаным прыемна ад таго, што "Вясна" праводзіць такую патрэбную працу. А з іншага боку – шмат якая інфармацыя пра тое, што адбываецца ў краіне, проста шакіруе нас. Тут у нас з дня ў дзень таксама не лягчэй.

Зона тут не рабочая, але калі праца ёсць, дык за яе "зэк" атрымлівае 370 рублёў у месяц. Так-так, не тысяч, а рублёў. А за якія сродкі плаціць дзяржпошліны для адпраўкі скаргаў?

Зону нашу цяпер "забілі" да адказу – камеры перапоўненыя. Мы, асуджаныя на вялікія тэрміны, сядзім пад замком. Няма магчымасці на прагулку нармальна выйсці, каб падыхаць такім неабходным для "зэка" кіслародам. Вельмі малыя памеры прагулачнага дворыка, дзе знаходзіцца на прагулцы 400 чалавек. У лазні – кашмар, распранальня памерамі 3 х 5, а сама лазня 5 х 10. А ў бескамерных бараках наогул нары стаяць у тры ярусы. У бараку, дзе 300 чалавек, у адзінай прыбіральні стаіць толькі тры ўнітазы. Тут няма сэнсу гаварыць пра нейкую гігіену. На доўгатэрміновых спатканнях не дазваляецца мець аўтаручкі, каб нельга было нешта напісаць.

Медсанчастка без медыкаментаў ужо з паўгода. Я хварэў два месяцы, хадзіў, прасіў, каб мяне абследвалі. Мне толькі праз месяц зрабілі рэнтген лёгкіх. Вынік шакіруючы – я на нагах перанёс плеўрыт, і ў мяне засталася вадкасць у лёгкіх – гэта ж паўкроку да туберкулёзу. Апрача таго, хвароба дала ўскладненне на сэрца. Мне рабілі ўколы, якія даслалі з волі мае родныя, дзякуй ім вялікі.

Напісаць хочацца шмат чаго. Хочацца быць пачутым. У мяне ёсць пытанне: ці існуюць якія-небудзь міжнародныя арганізацыі для аказання дапамогі такім, як я і для больш даступнага абмену інфармацыяй?

Яшчэ раз дзякуй усім Вам за Вашую працу.

З павагай *Сяргей Працiраеў.*

Адрас: 211800 Беларусь, Віцебская вобл. г. Глыбокае, УЖ 15/13-ПКТ-22, атрад 24.

* *Заўвага: на ўвазе маюцца чытачы бюлетэня "Права на волю".*

***Бюлетэнь "Права на волю" Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна", №6 (102).03.2002 г.*

# Пенсіянеры могуць застацца без пенсій

Аб магчымых затрымках з выплатай пенсій заявіла 21 траўня на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава. "Затрымак з выплатай пенсій у нас пакуль няма, ёсць парушэнні графіка. Але я баюся, што праз нейкі час мы можам сутыкнуцца з сітуацыяй, калі ўзнікне запазычанасць па выплаце пенсій. Я павінна аб гэтым сказаць праўдзіва і адкрыта, паколькі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны прааналізавала сітуацыю, якая склалася, і мы бачым, што прапанаваныя меры бягучага характару не дазваляюць у поўнай меры нам вырашыць тую задачу, якая пастаўлена прэзідэнтам,"— сказала Морава.

Як паведамляе БелаПАН, адной з мер "бягучага характару" стала прынятае Саветам міністраў 8 траўня пастановы аб накіраванні на выплату пенсій 23 млрд.рублёў за кошт змяншэння асігнаванняў на аздараўленне насельніцтва. Персанальная адказнасць за своечасовую выплату пенсій ускладзена на Антаніну Мораву і міністра фінансаў Мікалая Корбута. Кантраляваць сітуацыю даручана віцэ-прэм'еру Андрэю Кабякову.

# Да канца года плануецца закрыць 100 школ

У Беларусі ў сувязі з неспрыяльнай дэмаграфічнай сітуацыяй зніжаецца колькасць дзяцей школьнага ўзросту. Аб гэтым 22 траўня ў Мінску ішла размова на пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі Беларусі. У 2001-2002 годзе ў агульнаадукацыйных школах краіны вучылася на 57 тысяч чалавек менш, чым годам раней, а ў чарговым навучальным годзе мяркуецца скарачэнне яшчэ на 52 тысячы навучэнцаў.

Як паведаміў журналістам начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства Мікалаў Фяськоў, у працэсе рэарганізацыі навучальных устаноў у Беларусі да канца 2002 года будуць закрыты 57 пачатковых школ, 42 базавыя і 1 сярэдняя школа. Гэта датычыць навучальных устаноў, якія размешчаны ў сельскай мясцовасці. Для дзяцей з такіх вёсак, па словах Фяськова, будзе арганізаваны падвоз да буйных школ, у сувязі з чым у бягучым годзе для гэтых мэт плануецца набыць 126 аўтобусаў.

# Малако – прадукт непапулярны?

**Яшчэ ў мінулым годзе калектыў ААТ "Пастаўскі малочны завод" – адзін з лепшых у рэгіёне, а яго вырабы на рэспубліканскім конкурсе прадукцыі года-2001 былі адзначаны па якасці на спажывецкім рынку краіны.**

У свой час пры наведванні раёна нават А. Лукашэнка пахваліў работу прадпрыемства, прадэгусціраваў сыры і кефір, якія выпускаюцца.

З таго часу завод не стаяў на месцы, засвоіў выпуск ужо 69 найменняў вырабаў, стварыў шмат рабочых месцаў, але цяпер сутыкнуўся з небывалымі раней цяжкасцямі. Па словах дырэктара Эдуарда Казуры, пасля павышэння рознічных цэн у першым квартале рэалізацыя прадукцыі рэзка знізілася. Як і ў шэрагу іншых заводаў галіны, калектыў знаходзіцца амаль у тупіковай сітуацыі, на мяжы спынення, калі з кожным днём малочнай сыравіны не памяншаецца.

Іншая справа, што насельніцтва пасля затрымак пенсій і зарплат, вымушана зацягнуць паясы тужэй. Як у іншых, склады прадпрыемства завалены разнастайнай смачнай і карыснай прадукцыяй, а збыту няма. Па-першае, насычаны расійскі рынак спыніў спажываць больш дарагую беларускую прадукцыю. У сваёй жа краіне адміністратыўна-камандная эканоміка дыктуе свае, зусім не рынкавыя правілы.

Адміністрацыя суседняй Мінскай вобласці загадала гандлёвым арганізацыям не браць на рэалізацыю прадукты з іншых абласцей. Гэта адбілася на пастаўскіх вытворцах, якія наладзілі сувязі са сталічнымі магазінамі. Перасталі браць мясцовыя малочныя прадукты і ў Полацку. Для рэалізацыі на месцы дастаткова мець 10 тон сыравіны, а толькі ад насельніцтва за дзень закупляецца малака больш 15 тон. У пашавы перыяд закупкі штодня перавышаюць больш 100 тон, якія ўжо цяпер невядома куды дзяваць.

Прадпрыемства назапасіла сухое малако і масла, а збыць яго не могуць. Каторы год не паступаюць грошы за малако і ад гіганта галіны – Глыбоцкага МКК, у якога таксама падобныя праблемы. Як сведчыць статыстыка, 37% перапрацоўчых прадпрыемстваў зменшылі вытворчасць, а больш паловы спрацавалі са стратамі на агульную суму 5 млрд. рублёў. На гэтым фоне страты пастаўскага малаказавода за першыя два месяцы года – 80 мільёнаў выглядаюць яшчэ па-боску. У выніку не атрымліваецца у час разлічыцца з пастаўшчыкамі, ды і з аплатай насельніцтву ўзніклі складанасці.

У сваіх бедах у горадзе малочны завод не адзін. Такія ж праблемы узніклі і ў мясцовага мясакамбіната, чые вырабы перасталі браць у Мінску. На Пастаўшчыне са стратамі працуюць ужо 27 суб'ектаў гаспадарання і гэта не апошняя лічба.

*Уладзімір Шык*

# Выцвярэзніку скажам: "Пакуль"



Фота IREX/ProMedia

У бліжэйшы месяц медыцынскі выцвярэзнік г. Глыбокае скончыць сваё існаванне. Аб гэтым паведаміў у час гутаркі начальнік аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Протас А. В.. Па яго словах, ліквідацыя выцвярэзнікаў праходзіць па ўсёй вобласці. Такія ўстановы пакінуць толькі ў буйных гарадах – Віцебску, Оршы, Полацку, Наваполацку. І хоць работы чатыром штатным супрацоўнікам хапае – за гэты год затрымана больш 400 чалавек – выцвярэзнік сябе не акупае. Самаакупальнасць ніколі не была мэтай дзейнасці такой установы, але нашы суайчыннікі наўрад ад такой навіны кінуць піць і будуць весці пристойны лад жыцця. Лагічна было б падумаць, што даглядаць за парадкам і ізаляваць нецвярозых грамадзян будзе патрульна-вартавая служба. Але, як аказалася, гэтая структура таксама патрапіла пад скарачэнне. Як гэта паўплывае на парадак у горадзе, нам, глыбачанам, прыйдзецца адчуць у хуткім часе.

*Ю. Калбасіч*

# Растуць крамы як грыбы

Не толькі чыста знешне апошнім часам непазнавальна змяніўся райцэнтр Глыбокае. Жыхары ўжо не здзіўляюцца, што кожны месяц адкрываюцца новыя крамы прыватных структур. У горадзе ўжо апярэдзілі 28 гандлёвых кропак спажыўкааперацыі па дызайну і падборы тавараў 42 прыватныя магазіны, 4 прыватныя бары і кафэ, адно з якіх дзіцячае. Каб не адставаць ад канкурэнтаў, мясцовае УГП "Каапгандль" услед за кафэ "Магнолія" у гарпасёлку Падсвілле днямі адкрыла ў горадзе дзіцячае кафэ "Фунцік". Асаблівасць яго ў тым, што яно працуе па прынцыпу знакамітай сеткі абслугоўвання рэстаранаў «Макдональдс». Такія з'явы толькі радуюць спажыўца, бо чым больш выбар тавару і прапаноў, тым меншыя цэны.

*У.Шык*

# Знайшлі сваю нішу

Адразу двух прэстыжных дыпломаў за перамогі ў абласным і рэспубліканскім конкурсах "Лепшы прадпрымальнік 2001 года" сярод прадпрыемстваў дробнага бізнесу ўдастоена ААТ "Заазернае" з вёскі Дунілавічы Пастаўскага раёна. Самае дзіўнае, што яшчэ крыху больш за тры гады таму назад гэты прыватны мінімясакамбінат ледзь не закрылі, спыніўшы работу ўбойнага цэха. Цяпер у калектыве працуе 54 работнікі. З уводам у эксплуатацыю яшчэ аднаго цэха па вытворчасці сыра-вяленых каўбас дабавіцца 15 новых рабочых месцаў. З дзесяткамі найменняў выпускаемых тут каўбас і вэндажаняў знаёмы і жыхары абласнога цэнтра, куды фірма наладзіла рэгулярныя пастаўкі сваёй прадукцыі. У адрозненні ад аналагічных дзяржструктур прыватнікі больш акуратна і ў тэрмін разлічваюцца з пастаўшчыкамі і насельніцтвам за паступіўшую на перапрацоўку жывёлу. Дарэчы, на долю прадпрыемстваў недзяржаўнай уласнасці на Пастаўшчыне прыходзіцца трэцяя частка выпускаемай прадукцыі.

# У Віцебскай вобласці расце беспрацоўе

Толькі ў параўнанні з пачаткам года колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных абласной службай занятасці, павялічылася на 2632 чалавекі і дасягнула 20295 чалавек. Расце колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных абласной службай занятасці пасля скарачэння на прадпрыемствах. Так, у студзенітраўні 2001 года такіх прыйшло на біржу працы 936 чалавек, у гэтым годзе – 1586. І, па словах спецыялістаў абласнога ўпраўлення службы занятасці, — гэта толькі пачатак.

# Развіталіся з калгасам

Першым у Браслаўскім раёне, хто рашыўся працаваць на зямлі па-новаму стаў былы калгас "Партызан". Ужо веснавую сяўбу правяла фермерская гаспадарка з 2100 гектарамі, якую ўзяў у арэнду былы старшыня Аляксандр Міхайлаў, працаваўшы ў маладосці механізатарам і брыгадзірам. Канчаткова разарваць з калгаснай сістэмай патрэба ўзнікла пасля таго, як згарэла кантора і ніяк не ўдавалася атрымаць зароблены грошы за прададзенае малако. Найскладаней было пераканаць калгаснікаў, што яны зажывуць лепей, калі стануць вольнымі хлебаробамі, пазбавяцца лайдакоў і п'яніцаў. Свае паі атрымалі і пенсіянеры, якім гаспадарка будзе дапамагаць апрацоўваць прысядзібныя ўчасткі. У адрозненне ад мінулых гадоў работнікі фермерскай гаспадаркі ў два разы павялічылі пасадкі ранняй бульбы, мяркуюць разбіць плантацыі чорных парэчак.

# Хабарнік у пагонах

Вялікі рэзананс у Мёрах выклікала асуджэнне на 5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці маёра мясцовай міліцыі Івана Вітко. Цяпер ужо былы старшы інспектар пашпартнавізавай службы адначасова яшчэ пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з выканаўча-распарадчальнымі функцыямі. Спосаб абагачэння гэты афіцэр прыдумаў просты: за дадатковую плату браўся хутка аформіць і атрымаць новыя нацыянальныя пашпарты. За хабарнікам сачылі паўгода, пакуль ён не быў затрыманы пры атрыманні чарговай удзячнасці ў 60 долараў ад аднаго з жыхароў райцэнтра. Самае цікавае, што кожны грамадзянін можа паскорыць працэдуру атрымання пашпартоў афіцыйна ў абласным цэнтры і па прымальнай дадатковай аплаце.

# Засталіся без газет

Проста збянтэжылі рэдакцыі большасці раённых газет рэгіёна вынікі падпіскі на другі квартал 2002 года. Дагэтуль, калі і падалі тыражы, то абласных і рэспубліканскіх газет, а рупары правячай "вертыкалі" на месцах, наклады павялічвалі. Але настолькі дрэнна стала жыць пасля прэзідэнцкіх выбараў, што з красавіка колькасць падпісчыкаў у докшыцкай раённай газеце "Родныя вытокі" зменшылася на 528, а ў іх калег з шаркоўшчынскай "Кліч Радзімы" – на 479 чытачоў, што па мясцовых мерках – унушальная лічба. Яшчэ больш устрывожыла рэдакцыйныя калектывы намеры Міністэрства па друку на базе некалькіх мясцовых газет стварыць з мэтай эканоміі бюджэтных сродкаў адну аб'яднаную рэгіянальную. Ужо аб'яўлена, што такой першай можа стаць газета "Полацкі веснік", да якой можа далучыцца рэдакцыі суседніх раёнаў.

# Слабае звяно

У новым для сябе статусе – спецгаспадаркі па вырошчванню элітных і суперэлітных гатункаў збожжа ў лепшы тэрмін сёлета завяршыў сяўбу калгас імя Мічурына Пастаўскага раёна. Тут рады не толькі дружным усходам яравых у пітомніках першага размнажэння ячменя, аўса, але і таму, што ўжо выплацілі заробак за красавік. Такую раскошу зараз могуць сабе дазволіць лічаныя гаспадаркі раёна, у прыватнасці, яшчэ калгасы "Дружба" і імя Калініна. Да свята Перамогі, як патрабавалася, усюды ўдалося пагасіць даўгі па заробках толькі за люты, асобным падраздзяленням асобнага АПК удалося заплаціць вяскоўцам за працу ў першым месяцы вясны. А ў цэлым толькі на Пастаўшчыне у 20 калгасаў і саўгасаў засталася запазычанасць. За гэта ледзь не пазбавіўся пасады дырэктар райаграпрамтэхнікі Г. Ластоўскі, але ў апошні момант грошы для работнікаў адшукаліся.

# Пазручнела ў дарозе

Усяго 10 месяцаў спатрэбілася прадпрыемству "Крулеўшчызнанафтапрадукт", што ў Докшыцкім раёне, каб пабудаваць паблізу Бягомля на аўтастрадзе Мінск-Віцебск выдатныя матэль і прыдарожнае кафэ. Палову неабходных сродкаў, праўда, выдзеліў канцэрн "Белнафтахім" для завяршэння гэтага праекта, які ўключае апроч АЗС станцыю тэхабслугоўвання і платную стаянку. Прыемна тут будзе спыніцца на адпачынак вадзіцелям, бо рыхтуюць гарачыя стравы. У аддзеланых па еўрастандартах нумарах ёсць душ, асобныя санвузлы, сушылкі, тэлевізары. Дарэчы, да канца гэтага года і пры выездзе з Докшыц на аб'язной дарозе побач з запраўкай з'явіцца прыдарожнае кафе і пункт тэхнічнай дапамогі аўтамабілістам.

*У.Шык*

# Імя тваё – "Казанова"

**Гэта сустрэча была выпадковай. Мы проста ехалі ў адным цягніку, вагоны якога былі не тое што малалюднымі, практычна пустымі. І зразумела, што пасажыр хінецца да іншага пасажыра. Весялей адольваць дарогу разам. Мой суразмоўца падсеў да мяне сам. Пасля некалькіх хвілін маўчання ўзніклі неякія першыя фразы, потым завязалася гутарка. Цікавая для мяне гутарка. Прычым, я не сказаў свайму спадарожніку, але я яго пазнаў. Успомніў, што ў свой час, калі мне даводзілася адпачываць у санаторыях і дамах адпачынку на Нарачы, я бачыў яго неаднаразова, найперш на танцавальных пляцоўках. Што тут хаваць, нават урачы нам раілі абавязкова наведваць танцпляцоўку, каб проста узняць свой жыццёвы тонус. І вось там я прыкмеціў гэтага мужчыну. Ён яўна быў не з кагорты адпачываючых, але менавіта на яго скіроўвалі свае погляды жанчыны, якія, дарэчы, пераважаюць у такіх мясцінах.**


*Фота IREX /ProMedia*

"Не буду хаваць праўду, я – самы сапраўдны альфонс, жыву за кошт жанчын. А пачалося гэта з першай маёй жонкі. Уласна кажучы, яна і падказала мне гэты шлях існавання. Усяго афіцыйных жонак было ў мяне пяць. Але з жонкамі праблема складаная. Рана ці позна яны пачынаюць цікавіцца: а дзе ты працуеш і ці можаш увогуле прыносіць грошы. Найбольш прасцей стасункі атрымліваюцца з незамужнімі жанчынамі, якім недзе за сорак гадоў. Гэтыя ўжо ўсяго пабачылі ў жыцці і нічога ад гэтага жыцця не чакаюць. Акрамя сэксу. Вось ён ім вельмі неабходны. І гэта я скарыстоўваю.

Асноўны мой "выпас", зразумела, Нарач. Там дамы адпачынку, санаторыі. Там я ў сваёй стыхіі. Прыйдзеш на танцпляцоўку – кінеш вокам, і адразу знаходзіш жанчынку ў гадах. Але якая яшчэ прагне гэтага самага. Мне дастаткова некалькі хвілін размовы, каб я, як гаворыцца, "прыбалтаў" жанчыну. Дарэчы, і кнігу Карнегі я ў свой час вельмі ўважліва чытаў. Дык вось, знаёмлюся, ачароўваю. А далей усё па заведзенай сістэме. Я пасяляюся ў яе нумары, а такія жанчыны заўсёды селяцца асобна з надзеяй на будучае. Яна мяне корміць, поіць – п'ю я дарэчы няшмат, у гэтай справе гарэлка толькі шкодзіць. Потым, калі ў яе заканчваецца тэрмін адпачынку, яна запрашае мяне да сябе дадому. Такая сувязь можа цягнуцца некалькі месяцаў. Потым – до. Мне патрэбна іншая, бо гэта пачынае нешта разумець. Значыць, зноў на Нарач.

Дарэчы, у мяне адкрылася новая "сенажаць" – Расія. Неяк з таварышам з'ездзіў туды, а там "поле неаранае"—расійскія мужыкі працуюць заўзята, грошы зарабляюць, але і співаюцца гэтак жа заўзята. А жанчынам патрэбны мужыкі! Вось яны і стогнуць, бедныя. Неяк я выпадкова патрапіў у Пскоў. Была жанчына. У яе ёсць афіцыйны муж, але ён прафесійны алкаголік, як сам сказаў мне пры сустрэчы. Ён нічога не меў супраць таго, што я атабарыўся ля яго жонкі, нават больш, прыходзячы п'яны з работы, прапаноўваў мне бутэльку " за паслугі". Але справа пайшла далей. Мая жанчына пахвалілася суседкам, сяброўкам, што ў яе ёсць такі "атлант". І тыя зацікавіліся! І на мяне атрымаўся попыт. Мая жанчына мяне не шкадавала, гаварыла, " мне хапае, няхай і іншым перападзе". Пашчыраваў я на той расійскай ніве настаяшча. Але ўсяму прыходзіць канчатак. Неяк п'яныя мужыкі вырашылі мяне аддубасіць. Давялося браць ногі ў рукі і ўцякаць з Расіі.

Зноў давялося вяртацца на нарачанскія "пракосы". Дарэчы, усе мае жонкі з'явіліся ў мяне менавіта тут. Беларуская жанчына, увогуле, уласніца. Калі мужык ёй падабаецца, яна стараецца абратаць яго, ажаніць. Хаця ў апошні час я заўважаю сярод жанчын, асабліва тых, хто займаецца бізнесам, пэўную незалежнасць. Яны ведаюць, чаго ад цябе жадаюць. Атрымаюць, нават заплоцяць – і да пабачэння. Што ж, не самы горшы варыянт.

А ты думаеш, чаго я еду ў Глыбокае. Да жанчыны. Я не ведаю, хто яна такая, не ведаю нават яе ўзросту, выгляду. Але падказалі добрыя людзі, сазваніліся. Будзе чакаць на чыгуначным вакзале.

Мне стала вельмі цікавым, журналісцкая жылка спрацавала, і на вакзале я ўсё-такі падцікаваў. Сапраўды майго выпадковага спадарожніка чакала жанчына. Хай дасць ім Бог шчасця. Абоім.

Я яшчэ ў час той выпадковай размовы спытаўся: " Ну, добра, здароўе не падводзіць. А калі падвядзе?"

Мой субяседнік у адказ усміхнуўся. "Пенсію я, зразумела, гэтым заняткам не выпрацую, але ж спадзяюся, што да сталых гадоў дажыву так, як жыву. Гэта ж як спорт, пакуль займаешся – займаешся. Трэба толькі не спыняцца."

Што пачуў, тое запісаў

*Алесь Касцень*

# Маскоўскіх звяроў глядзелі глыбачане

На пляцоўцы ў раёне МКК шмат дзён працаваў выязны звярынец Маскоўскага заапарка. Відовішча, канечне, цікавае. Шмат глыбачан спакусіліся на яго, заплацілі грошы, каб пабачыць у клетках экзатычных звяроў, якія ў нашых мясцовасцях у натуральных умовах не жывуць. Трэба падзякаваць арганізатарам відовішча, што з самых маленькіх грошай яны не бяруць. Уласна кажучы, можна па рознаму адносіцца да такога атракцыёну. Але калі ёсць гледачы, ёсць, так бы мовіць, попыт, то ёсць і прапанова.

І калі палічыць выдаткі, якія маюць арганізатары гэтай справы, то цана білетаў адпавядае ім. Толькі вось крыху шкада саміх звяроў. Жыхары навакольных дамоў вакол пляцоўкі нават начамі чуюць іх рыкі. Несалодка ў клетках. Канечне, было б лепш, каб жыхары Беларусі мелі магчымасць у свой адпачынак з'ездзіць у тую ж Афрыку і паглядзець на экзатычных жывёл у іх натуральным стане. Магчыма, мы да гэтага дажывём.



*Фота В.Саланінкі*

# Усхваляючы Бога ў песнях

**26 траўня ў Глыбоцкай баптысцкай царкве адбылося не зусім звычайнае богаслужэнне.**

Разам са звыклай пропаведдзю і малітвамі прыхажанам пашчасціла пачуць цудоўны канцэрт братоў мінскай царквы "Галгофа" Аляксандра і Вячаслава. Абодва госця прафесійныя музыкі – нават маюць ужо супольны альбом. Адзін прыйшоў да Бога праз бацьку, другі праз маці. Вячаслаў меў доўгі і складаны шлях да веры – граў у рэстаранах "папсу" і нават эксперыментаваў у цяжкіх стылях музыкі, але з часам задумаўся, што жыццё мусіць мець нейкі сэнс. Яго маці была веруючай здаўна і менавіта яна дапамагла яму знайсці шлях да ісціны. Аляксандр спачатку саромеўся, як і большасць людзей, прыкланіць калені перад Госпадам, але на адным служэнні пастар сказаў: "Ты гэта робіш не прада мной ці іншымі людзьмі. Ты гэта робіш прад самім Богам". Гэтыя словы музыкант запоўніў на доўгія гады. Аляксандр і Вячаслаў ужо даўна выступаюць дуэтам. У дадзены момант яны гастралююць па малебных дамах Віцебшчыны. Як сказалі госці на сустрэчы, ім вельмі спадабаўся наш горад, і калі дасць Бог, яны прыедуць сюды зноў.

*А.Храпавіцкі (фота аўтара)*



**У жніўні 2001 года ў Глыбоцкім раёне працаваў міжнародны маладзёжны лагер з удзелам маладых валанцёраў з Германіі і Ізраіля. Асноўнам у рабоце лагера быў догляд ваенных пахаванняў на тэрыторыі раёна. Аб рабоце гэтага лагера падрабязна пісала "раёнка". Наш чытач, які падарожнічаў па Германіі знайшоў у нямецкай газеце "Sudkurier" артыкул аб дзейнасці гэтага лагера ў нашым раёне і перадаў у рэдакцыю "Вольнага Глыбокага". Змест гэтага артыкула, як погляд нямецкага журналіста Вальтраўда Шварца на адну і тую ж парблему, мы прапануем Вашай увазе.**

# Міжнародны лагер у Глыбокім.

## Погляд з Германіі

"Прыязджайце зноў", - усе 14 членаў выканаўчага камітэта жадаюць замежным гасцям. Паведамленне з Глыбокага, раённага горада, які знаходзіцца дзесьці ў 160 кіламетрах на паўночны ўсход ад Мінска, парадавала і абудзіла надзею. Быў зацверджаны склад незвычайнай групы. 15 беларускіх і нямецкіх маладых людзей працавалі 2 тыдні па даручэнню Нямецкай федэрацыі па догляду за ваеннымі магіламі на салдацкіх могілках, а таксама памятных месцах загінуўшых партызан і закатаваных яўрэяў.

Тое, што такую групу маглі прыняць у Беларусі, маленькая сенсацыя. Краіна, якая пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз пацярпела больш за ўсіх ад жахлівых дзеянняў вермахта і СС, як і Польша да гэтага часу не хацела ратыфікаваць пагадненне па ваенных захаваннях. У Беларусі ў гады другой сусветнай вайны было забіта больш за 2 мільёны чалавек, у тым ліку амаль усё яўрэйскае насельніцтва.

Маладзёжны лагер, які ў Германіі арганізоўваўся па ініцыятыве былога лётчыка франтавой авіяцыі Зігурда Кведнава з Пфуленддорфа, быў другім, які дазволіў беларускі ўрад. У 1994 годзе група моладзі працавала ў Тарасава, недалёка ад Мінску. Было закладзена памятнае месца для звыш тысячы загінуўшых сямі нацыянальнасцяў.

Фрыдэман Дзёрынг, прадстаўнік фольксбунда, даў станоўчую ацэнку значэння маладзёжнага лагера, як значны ўплыў ў перамовах аб заключэнні дзяржаўнай дамовы. Калі такая дамова будзе падпісана, фольксбунд зможа накіраваць мясцовых рабочых на закладку магілак і перазахаванне загінуўшых. Такія работы таксама даюць надзею на высвятленне лёсу тысяч прапаўшых без вестκі салдат.

Просьба аб даравані і "прымірэнні з загінуўшымі" – настойлівая просьба фольксбунда. І многае робіцца. Маладыя людзі сутыкаюцца ўсюды з сяброўскай цікаўнасцю, добразычлівасцю тых людзей, якія перанеслі вайну.

Для 83-гадовага ветэрана простыя салдаты з абодвух бакоў – ахвяры, рабы Гітлера і Сталіна. Магчыма менавіта так думала і жанчына, якая за некалькі гадоў да сваёй смерці ўпрыгожыла кветкамі просты драўляны крыж на полі боя побач са сваёй вёскай.

Моладзь перажывае, калі ім у час экскурсіі па Глыбокаму гісторык паказвае, дзе знаходзіўся лагер ваеннапалонных і месцы растрэлаў. 23-гадовая Наталля Юргель яўна ўзбуджана, калі апісвае варварскія адносіны да зняволеных ці аб знішчэнні гета. Аднак раптоўна падхоплівае тэму ўзаемаразумення народаў па догляду за ваеннымі магіламі. Яна звяртаецца да маладых немцаў і кажа: "Я кланяюся перад вамі за тое, што гэтая частка гісторыі таксама адгукаецца боллю ў вашых сэрцах"

# Юбілей гуртка

Гурток "Медыцынскія веды", які арганізавала Гараповіч Марына Іванаўна, зрабіў у гэтым годзе пяты выпуск. З гэтай нагоды ў гарадскім цэнтры культуры ладзілася ўрачыстасць. Адметным было тое, што на выпускны вечар гуртка сабраліся выпускнікі з 1996 па 1999 год. Сам жа гурток кожны год аб'ядноўвае юнакоў і дзяўчат з гарадскіх школ, прафліцэя і дазваляе кожнаму з іх раскрыць свае здольнасці. Большасць з тых, хто выходзіў на сцэну, узгадваў лепшыя моманты ў час заняткаў, паездак, чаяпіццяў і адзначалі, што гурток медыцынскіх ведаў – гэта цудоўная школа сяброўства і чалавечых узаемаадносін. Разам з афіцыйнай часткай – уручэннем дыпломаў, прысваеннем ганаровых званняў, падарункаў, прысутныя глядзелі відэасюжэты аб жыцці гуртка, а ў фае працавала фотагалерэя. Усе з захапленнем слухалі аўтарскія песні пад гітару адзінаццікласніцы СШ№3 Пракапенка Любы і навучэнца прафліцэя Каланда Дзімы, глядзелі танцавальныя нумары. Цудоўна, што ў гуртка ёсць сваё кола сяброў, якія дапамагаюць добра правесці час. 65 выпускнікоў гэтага года – маладыя людзі, якія адчыняюць дзверы самастойнага жыцця. Веды, атрыманыя на занятках гуртка, павінны стаць для іх выратавальным колам у бяскрайнім моры жыццёвых праблем.

*Ю. Калбасіч*



# Запазычаннасць за энергію пераўзышла 450 мільёнаў долараў

Запазычаннасць беларускіх спажыўцоў за цеплавую і электрычную энергію павялічылася з пачатку года амаль на 90 мільёнаў долараў і дасягнула да 1 траўня больш 450 мільёнаў долараў. Па дадзеных прэс-службы Беларускага дзяржаўнага энергетычнага канцэрна, найбольшая запазычанасць – 253 мільёна долараў (альбо 60%) даводзіцца на долю сельскагаспадарчых спажыўцоў. Толькі 72% разлічылася за энергію з міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Зніжаюць аплату энергіі арганізацыі, якія фінансуюцца з рэспубліканскага бюджэта.

Беларускія энергетыкі, за няйменнем іншых сродкаў барацьбы з неплацельшчыкамі, абмяжоўваюць найбольш злосным з іх адпусканне электрычнай і цеплавой энергіі. У першым квартале колькасць такіх санкцый пераўзышла 21 тыс., і неплацельшчыкі недаатрымалі амаль 500 млн. квт./г. электраэнергіі і 275 тыс. гігакалорый цяпла.

Аднак, пакуль гэтыя меры істотнага ўплыву на ліквідацыю запазычанасці не паўплывалі, адзначылі ў прэсслужбе.

*«Хартыя 97»*

# Дзяржава будзе зарабляць на курцах

У Беларусі ўдасканалена заканадаўчае рэгуляванне тытунёвага рынку і значна спрошчана сістэма прасоўвання тытунёвых вырабаў ад імпарцёраў да канечнага спажыўца. Аб гэтым прэзідэнту паведамілі ўпраўляючы справамі беларускага прэзідэнта Галіна Жураўкава і міністр гандлю Аляксандр Кулічкоў.

Паводле паведамлення прэ-службы кіраўніка дзяржавы, у ходзе гутаркі Лукашэнка заслухаў справаздачу аб прынятых мерах па выкананню даручэнняў, дадзеных ім на нарадзе па пытаннях развіцця тытунёвага рынку. Прэзідэнт прадставіў Кулічкову дадатковыя паўнамоцтвы па рэгуляванню тытунёвага рынку і запатрабаваў без прамаруджвання прыняць меры па безупыннаму снабжэнні насельніцтва поўным асартыментам тытунёвых вырабаў як айчыннай, так і імпартнай вытворчасці. Лукашэнка таксама ўказаў на неабходнасць удасканалення таваравытворчай сістэмы, забяспячэння яе празрыстасці і павялічэння паступленняў у бюджэт сродкаў ад рэалізацыі тытунёвых вырабаў.

# Страсці па Мюнхгаўзену працягваюцца!

**Як вы ўжо ведаеце, шаноўныя чытачы, у нашай газеце /"ВГ", №14 (105) за 4-10.04.2002 г./ быў апублікаваны матэрыял "Мюнхгаўзен пахаваны ў Глыбокім". На такую тэму пісаў і "Веснік Глыбоччыны". Як ні дзіўна, загадкавым глыбоцкім Мюнхгаўзенам зацікавілася і "Комсомольская правда в Белоруссии", якая перакатала сюжэт з глыбоцкіх газет на свае старонкі. Далей, больш! Матэрыял ў "Камсамолцы" ужо прывабіў маскоўскі тэлеканал ТВЦ. Нам патэлефанавалі з мінскага карпункта з просьбай дапамагчы зняць сюжэт пра барона Мюхгаўзена і гэты рэйд 25 траўня са здымачнай групай ТВЦ правялі Васіль Саланінка і Уладзімір Скрабатун.**



Зразумела, найпершы візіт здымачнай групы быў на цвінтар Копцеўка, дзе пахаваныя пакуль што загадкавыя, Фердынанд і Вільгельміна фон Мюнхгаўзены, на магіле якіх стаіць літы чыгунны крыж з надпісам на нямецкай мове, датаваны 1878 годам. Далейшыя сюжэты здымаліся на плошчы 17 Верасня на фоне Троіцкага касцёла, дзе маскоўскія журналісты правялі апытанне жыхароў Глыбокага на тэму: "Што вы ведаеце пра барона Мюнхгаўзена! Ці верыце, што глыбоцкі Мюнхгаўзен з'яўляецца сваяком славутага літаратурнага персанажа! Ці ўвойдзе гэты аб'ект у турыстычны маршрут? Ці падобныя па свайму характару глыбачане і барон Мюнхгаўзен? Чаму ніхто не робіць далейшых вышукаў у архівах наконт радаводу глыбоцкага Мюнхгаўзена?"











На жаль, як паказала апытанне, большасць глыбачан ніколі не чула і не ведала аб існаванні славутага літаратурнага твора і пра яго героя, кірасіра – паручыка-ротмістра рускай арміі, вясёлага немца, невычэрпнага на выдумкі Карла-Фрыдрыха-Іераніма барон Мюнхгаўзен-аўф-Бодэнвердэра.

Нагадаем: гэтую, сусветна вядомую, кнігу "Аповяд барона Мюнхгаўзена пра яго цудоўныя вандраванні і паходы ў Расію" напісаў Энрых Распэ, які нейкі час служыў у войску ў Расіі і змагаўся супраць Турцыі.

Відаць, нашы землякі не толькі ніколі не чыталі гэтай кнігі, але і не бачылі ні мастацкіх ні мультыплікацыйных фільмаў, прысвечаных барону Мюнхгаўзену, якія раней вельмі часта паказвалі па тэлебачанню. Такая недасведчаннасць глыбачан крыху засмуціла маскоўскіх тэлежурналістаў.

Аднак, было і не мала рэспандэнтаў, якія добра валодалі гэтай тэмай. Тое, што ў Глыбокім знайшлі магілу нейкага Мюнхгаўзена, жыхары спасылаліся, што даведаліся аб гэтым з "Комсомольской правды", "Весніка Глыбоччыны" альбо "Вольнага Глыбокага".

Між іншым, колькі б доўга не здымалі б гэты сюжэт на вуліцах Глыбокага, ён зойме ў маскоўскім эфіры ўсяго паўтары хвіліны.

Як бы далей ні разгортваліся падзеі, цяжка прадугадаць, якая яшчэ студыя прыедзе здымаць сюжэт пра таямнічага глыбоцкага Мюнхгаўзена. Наш горад, нечакана для сябе, можа стаць месцам паломніцтва. Гэтую магілу, якая знаходзіцца ў паўразбураным стане, хаця-нехаця, давядзецца прыводзіць у належны стан. Як заўважылі самі маскоўскія тэлежурналісты, калі ўжо Напалеон начаваў ў Глыбокім і на фоне такіх постацяў, ураджэнцаў горада, як П.Сухі, Т. Даленга-Мастовіч, Л. Ракоўскі, дзе ж ужо, як не ў Глыбокім быць пахаваным славутаму барону Мюнхгаўзену, ці яго бліжэйшым нашчадкам!

Адзняўшы яшчэ некалькі сюжэтаў пра Глыбокае, маскоўскія тэлежурналісты паехалі ў Полацк.

*Ул.інф.*

*Фота В.Саланінкі*

# Як не пайсці ў войска

**Маладзёжны клуб "Альтэрнатыўка" адкрыўся на базе Гомельскай групы Міжнароднай амністыі. Мэта клуба – аказанне дапамогі маладым людзям, якія не могуць альбо не хочуць ісці ў войска.**

У клубе любы жадаючы можа атрымаць кансультацыю па дзеючаму заканадаўству датычна правоў і абавязкаў дапрызыўнікоў, прызыўнікоў і ваеннаслужачых тэрміновай службы. Сябры "Альтэрнатыўкі" падкажуць, як праз суд абараніць свае канстытуцыйнае права на альтэрнатыўную службу, як правільна весці перапіску з дзяржаўнымі структурамі, дзе знайсці кваліфікаванага адваката.

Акрамя таго, гомельскія амністыйцы ініцыявалі кампанію грамадзянскага падпарадкавання "Права на альтэрнатыву", у рамках якой прапануюць прызыўнікам заявіць у прызыўную камісію аб сваёй адмове ад вайсковай службы па пераканаццях і патрабаваць на падставе артыкула 57 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадаставіць альтэрнатыўную грамадзянскую службу. Адмову прызыўной камісіі прапануецца абскардзіць у судзе.



Сябры "Альтэрнатыўкі" лічаць, што чым больш будзе такіх заяваў, тым складаней будзе ўладам ігнараваць волю грамадзянаў і тым хутчэй будзе прыняты закон "Аб альтэрнатыўнай службе".

Гомельская група Міжнароднай амністыі займаецца пытаннем альтэрнатыўнай службы ўжо паўгады. Звярнуўшыся ў Канстытуцыйны суд, арганізацыя атрымала адказ аб тым, што гэта ўстанова ўжо дала ў 2000 годзе сваё заключэнне аб неабходнасці прыняцця Закона аб альтэрнатыўнай вайсковай службе. Запыты былі накіраваны таксама ў Палату прадстаўнікоў і Генштаб, якія паралі звярнуцца: Палата прадстаўнікоў – у Генштаб, а Генштаб – у Палату прадстаўнікоў.

Актывіст "Альтэрнатыўкі" Аляксандр Аніськоў сам адслужыў у войску 6 гадоў у Чэхіі і лічыць, што служба ў войску зусім не абавязковая для маладога чалавека: "Наша войска не прафесійнае. Там маладыя людзі нічога не атрымліваюць. Яны толькі прывучаюцца да жорсткасці і нянавісці".

**Тэл. "гарачай лініі": (0232) 55 98 72.**

*Вера Дзядок*

22 траўня ў Палаце прадстаўнікоў ізноў распачынаюцца слуханні па праекце закона "Аб асновах забеспячэння інфармацыйнай бяспекі". Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў удумліва і адказна вырашыць лёс дакумента, які вяртае Беларусь у часы "халоднай вайны". Тэкст звароту да грамадскасці прыняты 21 траўня Праўленнем асацыяцыі.

# Зварот

## ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" да беларускай і міжнароднай грамадскасці

На 22 траўня 2002 г. у Палаце прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь прызначана слуханне праекта закона "Аб асновах забеспячэння інфармацыйнай бяспекі". Ён мала чым адрозніваецца ад папярэдняга варыянта, які дэпутаты не падтрымалі і адправілі на дапрацоўку.

Нягледзячы на дэкларатыўныя палажэнні аб ахове правоў і свабод у інфармацыйнай сферы, згаданы законапраект значна іх абмяжоўвае. Яго прыняццё зробіць магчымым далейшы больш жорсткі кантроль за інфармацыйнымі патокамі.

Асабліва небяспечны гэты законапраект яшчэ і таму, што, ён прадугледжвае стварэнне ідэалагічнай вертыкалі, якая будзе складацца як з дзейсных дзяржаўных органаў, так і з новых структур, якія ствараюцца адмыслова для забеспячэння "інфармацыйнай бяспекі".

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў":

-- выказвае сур'ёзную занепакоенасць у сувязі са спробамі некаторых прадстаўнікоў улады навязаць грамадству недэмакратычны закон, які абмяжоўвае канстытуцыйныя правы грамадзян і, у першую чаргу, свабоду слова і інфармацыі;

-- заклікае дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь падысці ўдумліва і адказна да прыняцця рашэння пра лёс згаданага дакумента;

-- звяртае ўвагу беларускай і міжнароднай грамадскасці на той факт, што пэўныя палітычныя сілы мэтанакіравана вяртаюць Рэспубліку Беларусь да часоў "халоднай вайны".

*Прынята Праўленнем ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" 21 траўня 2002 г.*

Встреча официал. лиц со СМИ
Изгиб на ткани
Сито
Начало дня
Музык. пьеса
Вредитель
Роль Сталлоне
..., ... перейди на Федота
Междун. язык
Америк. писатель
Телевиз. канал
Бухгал. термин
Часть социосферы
Совет Европы
Время года
Русский писатель
Перед автомобиля
Углубление в земле
Английский писатель
... столбом или ... коромыслом
И Карден, и Ришар
Город в Ярославской обл.
Попойка
Город в Германии
Оформление
В мышеловке
Пара физ-ре
Горе из камня
Тонкие доски
После зрелости
Помощь
Клеймо животн.
Лицевая сторона монеты
Древнее название Волги
Предмет
Обмен
Спорт. фирма
Право на изобретение
Выступление клоуна
Детский курорт
Впадина
Валюта Европы
Система норм
На него наносят тени
Подарок
Первая жена
Дени Де ...
Сильный холод
Немецкий философ
Российская актриса
Второе счастье

Мусоропровод – это проводы милиционера на пенсию.

* * *

– Девушка, у Вас сало есть?
– Нет.
– А я нащупал!

anekdot.mail.ru

www.thedaily.ru СКАНВОРДЫ

# Як жыць доўга і захаваць да старасці добрае здароўе

**1.** Калі вы не аматар рыбных страваў, дадавайце да свайго штодзённага меню троху рыбінага тлушчу. Гэта дапаможа вам палепшыць стан сваёй сардэчна-сасудзістай сістэмы. Даследаванні паказваюць, што тыя, хто ўжывае 1 грам рыбінага тлушчу кожны дзень, маюць на 45% меншую верагоднасць памерці ад сардэчнага прыступу. Калі вы наважыцеся ўжываць рыбін тлушч, парайцеся спачатку са сваім лекарам, ці не маеце вы супрацьпаказанняў. RealAge сведчыць, што абязтлушчаная дыета і спажыванне ненасычаных тлушчаў можа зрабіць ваш рэальны біялагічны ўзрост на 6 год маладзей.

**2.** Некалькі праспяваных вамі песняў могуць быць цудоўным дадаткам да здаровага ладу жыцця. Вывучэнне ўдзельнікаў харавых групаў паказвае, што песні аказваюць станоўчы ўплыў на эмацыйны стан чалавека. Ну а калі грамадскія формы вам не падабаюцца, спявайце або слухайце песні ў душы або ў аўтамабілі. RealAge сведчыць, што клопат аб эмацыйным стане можа зрабіць ваш рэальны біялагічны ўзрост аж на 16 год маладзей.

**3.** Калі вы правільна сядзіце ля вашага кампутара, гэта дапаможа вашаму пазваночніку менш старэць. Каб ваш пазваночнік быў у норме, выкарыстоўвайце крэсла з падлакотнікамі, клавіятуру размяшчайце ніжэй за ўзровень локцяў, а манітор стаўце так, каб вы не нахілялі галаву, калі глядзіце на яго. RealAge сведчыць, што рэгулярны клопат аб сваім здароўі можа зрабіць ваш рэальны біялагічны ўзрост на 12 год маладзей.

**4.** Калі ў вас ёсць магчымасць, часцей піце апельсінавы сок. Гэты сок -- крыніца трох вельмі важных для арганізма рэчываў: вітаміну C, калію і фоліевай кіслаты, якая змяншае рызыку хваробаў сэрца. У адной шклянцы апельсінавага соку ўтрымліваюцца 124 міліграмы вітаміну C, 75 міліграмаў фоліевай кіслаты і 496 міліграмаў калію. RealAge сведчыць, што атрыманне з ежай 1200 міліграмаў вітаміну C у дзень можа зрабіць ваш рэальны біялагічны ўзрост больш чым на год маладзей.

*Сяргей Абламейка*

# ✷ Гараскоп ✷ 30.05 – 5.06

**Авен (21.3 -- 20.4)** Прыміце да ўвагі, што жаліцца на безграшоўе – не самы лепшы выхад. Калі хочаце спадабацца супрацьлегламу полу, зрабіце раўнадушны пафігісцкі твар. Цынікі і фаталісты заўсёды прываблiваюць палавых партнёраў. Спрыяльныя дні – 31, 4; крытычны – 2.

**Цялец (21.4 -- 20.5)** Не бойцеся матэрыяльных правалаў. Тое, што людзі называюць банкрутствам, для вас ґкажацца лёгкім бязгрошшам. І не хадзіце ў тыя дамы, дзе вас паважаюць толька па інерцыі. Паспрабуйце уцерціся ў давер да новых сямей – і на першых парах яшчэ можна будзе пускаць пыл у вочы. Спрыяльныя дні – 1, 3; крытычны – 4.

**Блізняты (21.5 -- 21.6)** У кожнага свае слабасці. У вас гэта гурманія, мяжуючая з абжорствам. Калі хочаце захаваць падобнасць фігуры і хоць якую-небудзь суму на надыходзячы дзень нараджэння, умерце свой апетыт. І грошы да вас пацягнуцца. Спрыяльныя дні – 30, 5; крытычны 2.

**Рак (22.6 -- 22.7)** Прыкупіце прыстойны чамадан. Работа яшчэ працягваецца, але ў думках вы ўжо там, у сваім любімым месцы, у модных паласатых плаўках. Дачніцы будуць у атпадзе ад вашай фігуры а-ля Сталоне. Ачкарыкі змогуць уразіць сваім інтэлектам. Да часу вашай доўгачаканай паездкі навакольныя акажуцца ў вас па вушы закаханнымі і няшчаснымі. Спрыяльныя дні – 2, 4; крытычны – 5.

**Леў (23.7 -- 23.8)** Час стрыгчы грыву, усе так змарыліся ад вашага аднойчы прыдуманага іміджу, што не блага было б што-небудзь памяняць. Калі не дапамогуць цырульнік і касметолаг – аддайцеся на расцярзанне хірургу. Ёсць яшчэ адзін выхад: не глядзець раніцай у люстэрка і прынцыпова хадзіць у мятай кашулі. Адзінота вам забяспечана. Спрыяльныя дні – 31, 4; крытычны – 2.

**Дзева (24.8 -- 23.9)** Не зарывайцеся. Многім не падабаецца ваш самазадавольны выгляд. Будзьце прасцей – і станеце сапраўдным правадыром бледналіцых. Асабліва пашанцуе тым дзевам, якія адважыліся на крутую авантюру. Твар у вас будзе абадраны, сэрца паранена, але справа, што вы пачалі, будзе жыць вечна. Спрыяльныя дні – 2, 4; крытычны – 5.

**Шалі (24.9 -- 23.10)** Кіньце манернічаць. Тыя, хто знаходзіцца з вамі побач, за спіной у вас вечна перадразніваюць вас і вашу сур'ёзнасць. Выратаваць вас можа толькі дурацкі неабдуманы ўчынак ці скачок з парашутам з акна вашай кватэры. Тады людзі скажуць: "Якая прыгажосць, якое легкадумства". Спрыяльныя дні – 1, 4; крытычны – 2.

**Скарпіён (24.10 -- 22.11)** Не скупіцеся, даставайце са склепа разнасолы і разнасахарыны. На днях будуць госці, на якіх не шкада патраціць усё, што ёсць у доме. Хтосьці з запрошаных даставіць вам сапраўдную душэўную асалоду. Гладзце шнуркі. Спрыяльныя дні – 30, 3; крытычны – 1.

**Стралец (23.11 -- 21.12)** У апошні час вас праследвалі мерзапакасныя дэпрэсіі. Гэтаму пакладзены эратычны канец. Толькі палавыя шаласці развеюць ваш удручаючы настрой. Не грэбуйце парадамі медыкаў: па краіне гуляе прывід СНІДу. І не раскідвайцеся часам на права і на лева – гэта пагражае даунізмам. Спрыяльныя дні – 1, 5; крытычны – 2.

**Казярог (22.12 -- 20.1)** Прыслухайцеся да парадаў пенсіянераў. Яны не толькі атрымоўваюць пенсію, але калі-нікалі нават разумныя рэчы выдаюць. Менавіта старэчая стрыманасць зберажэ вас ад скандалаў і разборак з выдзіраннем валос і выбіваннем зубоў. Не памяшае менавіта ў гэтыя дні падсунуць шакаладку начальніцы. Спрыяльныя дні – 30, 3; крытычны – 1.

**Вадалей (21.1 -- 19.2)** Вашы рукі не для «скукі». Хутка з'явіцца работа, якая прынясе вам даход на паўгода наперад. Няблага б рызыкнуць апошнім рублём. Вам пашанцуе ў любой азартнай гульні, калі нават гэта будзе спрэчка на шчаўбаны. Пазабавіцца і рызыкнуць вы можаце нават у каханні, а выіграеце натоўп уздыхальнікаў. Спрыяльныя дні – 31, 4; крытычны – 2.

**Рыбы (20.2 -- 20.3)** Бойцеся чалавека, раздаючага гуманітарную дапамогу. За добрай усмешкай і працягнутай рукой крыецца таршчоф і прытворшчык, дабрадаць і абжорства зваляцца на вас і дапаможа ў гэтым даўні і злёгку занудны, даўно забыты школьны сябра. Спрыяльныя дні – 2, 5;

Крытычны – 3.

# Усміхнёмся

Раніцай, у 6.30 бацька ДАІшнік будзіць сына (таксама ДАІшніка):

-- Уставай, уставай сынок! Гэтыя гады ўжо паўгадзіны бясплатна ездзяць!!!

***

Страявы агляд у шатландскай арміі...

Капрал:

-- Баец! Чаму спадніца на дзесяць сантыметраў даўжэй, чым патрэбна па статуту?!

Баец:

-- Капрал, а вы як думаеце?

***

Карысная парада:

Калі этыкетка на купленай вамі гарэлцы наклеена неахайна, сікась-накась, бутэлька заляпана кроплямі клею, акцызнай маркі няма, на паверхні напоя плаваюць радужныя плямы, а на дне бутэлькі ляжыць абгрызены ногаць, гэта павінна вас насцярожыць. Такую гарэлку трэба піць вельмі асцярожна.

***

Пры прыёме на пасаду сакратара машыніcткі дзяўчыну пытаюць:

-- Колькі знакаў вы друкуеце за хвіліну?

-- (Горда) 280! (Ціха ў бок). Праўда такая ерунда атрымоўваецца...

## Падзяка

*Кудзінай Р.В.*

За добрыя адносіны да пакупнікоў. За добры тавар. Ніколі не абманвае пакупнікоў, усё вельмі падрабязна тлумачыць. Купляем у Кудзінай Р.В мы з задавальненнем.

Вялікі ёй за гэта дзякуй.

*Пакупнікі: Катовіч В.В., Васілевіч Л.А., Гігола І.С., усяго 17 подпісаў*

На сняданак пі віно, на абед гарэлку, і да вячэры ўсе стануць ворагамі...

***

70 дражэ "Цік-Так" на сняданак, 40 -- на абед, і 30 -- на вячэру. Вага пастаяннае, дыханне свежае. Праўда слабае...

***

На Украіне было разведана новае месцанараджэнне нафты. Здабыча ўскладняецца тым, што нафта знаходзіцца ў цыстэрнах, якія на вялікай хуткасці рухаюцца па чыгунцы з Расіі ў Заходнюю Еўропу.

***

Размова двух даўніх сяброў:

– Я кінуў піць, курыць... І жонку таксама кінуў...

-- А жонку чаму кінуў?

-- Не заслугоўвае яна такога шчасця.

***

-- Як даказалі вучоныя Гарвардскага універсітэта, мышы размнажаюцца нашмат хутчэй, калі ім не перашкаджаюць вучоныя Гарвардскага універсітэта.



"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; E-mail: vglybokaye@irex.minsk.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 28 траўня 2002 г. у $10^{00}$
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26
Замова 2970